№ 3 (148)

# ПАХОДНЯ

Грамадска-палітычная газета

Травень 2013 г.

## ЧТО МОЖНО КУПИТЬ НА 100 ДОЛЛАРОВ СЕЙЧАС И ЧЕТЫРЕ ГОДА НАЗАД?

***Белорусов несколько лет вели к 500-долларовой мечте. И, согласно официальным данным, мы ее достигли. Однако 500 долларов вчера – это совсем не то, что 500 долларов сегодня.***

| Товары | 2009 год | 2013 год |
|---|---|---|
| Говядина, кг | 26 | 16 |
| Рыбные консервы, 350 г | 108 | 66 |
| Мягкий сыр, кг | 34 | 18 |
| Молоко, л | 199 | 147 |
| Соль, кг | 797 | 391 |
| Гречка, кг | 103 | 72 |
| Водка, л | 22 | 10 |
| Какао-порошок, 200 г | 93 | 45 |
| Капуста, кг | 361 | 261 |
| Картошка, кг | 371 | 392 |
| Лапша, кг | 93 | 105 |
| Яблоки, кг | 91 | 117 |
| Обед из 4 блюд | 84 | 55 |
| Мужская ветровка | 2 | 1 |
| Школьный костюм | 3 | 2 |
| Кухонный комбайн | 1 | 0 |
| Велосипед | 1 | 0 |
| ТВ, ед. | 0,7 | 0,2 |
| Бензин, л | 137 | 116 |
| Изделия из золота, за 1 г | 3 | 1 |
| Спички, тыс. коробков | 6,6 | 3,6 |
| Рублей | 285 800 | 860 000 |

“IP” сравнила, сколько на сто долларов можно купить товаров сейчас и сколько четыре года назад (на сайте Белстата удалось найти данные о ценах с 2009 года).

В стодолларовой купюре сегодня на 10 кило мяса меньше, чем в 2009. Четыре года назад “франклина” еще можно было обменять на 108 баночек рыбных консервов. Теперь за него дадут только 66. Потеряли сто долларов за четыре года и 12 литров водки. Меньше почти наполовину сегодня купим гречки, мягкого сыра и даже соли.

А вот за яблоки, картошку и лапшу больше долларов пока не просят. За четыре года в долларах больше всего подешевели яблоки – почти на четверть. Сегодня на сотню дадут на несколько десятков кило больше, чем в 2009-м.

Потеряла цену стодолларовая

*(Начало. Оконч. на стр. 5)*

## У МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ ВЫСЯКАЮЦЬ ЛЯСЫ НА ТЭРЫТОРЫІ ЗАКАЗНІКАЎ

***На тэрыторыі гідралагічнага заказніка «Астравы Дулебы» праходзіць незаконная высечка лясоў.***

Пра гэта сайту charter97.org паведаміў чытач.

Гідралагічны заказнік знаходзіцца на тэрыторыі Бялыніцкага і Клічаўскага раёнаў Магілёўскай вобласці. Ён быў створаны ў 1998 годзе для захавання ўнікальнага спалучэння флоры і фауны, якая больш нідзе не сустракаецца ў Беларусі і вельмі рэдка сустракаецца ў свеце. На тэрыторыі заказніка катэгарычна забараняецца любая гаспадарчая дзейнасць, у тым ліку - высечка лясоў. Тым не менш, у многіх месцах яе праводзяць.

У прыватнасці, чытач сайта паведамляе пра незаконную высечку дрэў у раёне вёскі Усакіна. Ён таксама даслаў фотаздымкі, на якіх відаць, што дрэвы знішчаныя на вялікай плошчы.

Гаспадарчую дзейнасць на тэрыторыі заказніка ажыццяўляе Клічаўскі лясгас.

## ВОРУЮТ…

11 мая Следственным комитетом возбуждено уголовное дело по статье 214 ч. 2 УК (Угон транспортного средства) по заявлению жителя г. Могилева 1990 г.р. о том, что 9 мая около 14-00 со двора его дачного дома на ст. Друть Белыничского района угнана а/м «ВАЗ-2106». СОГ установлено, что преступление совершил ранее судимый житель ст. Друть 1993 г.р. Мера пресечения не избиралась (задержан в административном порядке), сообщает uvd.mogilev.by.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# МАДЭРНІЗАЦЫЯ ПРАВАЛЬВАЕЦЦА, А ЯНЫ ЎСМІХАЮЦЦА

***19 красавіка Аляксандр Лукашэнка выступіў з чарговым пасланнем беларускаму народу і Нацыянальнаму сходу. Большая частка прамовы была прысвечана патрэбе мадэрнізацыі эканомікі.***

Датычна гэтай тэмы, як і ў мінулыя гады, ён зноўку паімкнуўся выліць цэбар бруду на сваіх апанентаў: "По вопросу модернизации сегодня в прессе много ненужного ерничанья. Наши оппоненты заявляют, что власти прибегли к новому предвыборному лозунгу. И, мол, все ограничится пустыми разговорами. Они приходят к странному выводу: якобы потенциал роста конкурентоспособности белорусской продукции исчерпан и в абсолютном выражении идет деградация нашей экономики. Поэтому, мол, нужно не модернизировать ее, а просто выбросить и принять кардинально иную модель. <…> Опять новых идей у наших оппонентов, открытых или закрытых врагов, у «пятой колонны» нет..."

І як доказ "паспяховасці" існуючай мадэлі беларускай заномікі, А.Лукашэнка прывёў шэраг прыкладаў, дзе, па яго меркаванню, ёсць канкрэтныя дасягненні. Асабліва ён падкрэсліў, што мадэрнізацыя ў краіне распачалась даўно, і за апошнія дзве пяцігодкі толькі ў Праграму адраджэння сяла па ходу гэтай мадэрнізацыі інвеставана 40 міліярдаў долараў (!).

Праграма мадэрнізацыі дрэвапераапрацоўкі павінна завяршыцца да 7 лістапада 2013 года, і менавіта з гэтага часу галіна пачне працаваць з добрымі прыбыткамі.

Асаблівая ўвага ў пасланні была нададзена энэргетыцы нашай краіны, куды за апошнія 5-6 год укладзена 7 міліярдаў долараў (!).

Прыпыніўся Лукашэнка і на шматлікіх фактах неэфектыўнага расходвання сродкаў, кепскай прапрацоўкі праектаў мадэрнізацыі, пастаўцы няякаснага, парой і кантрафактнага абсталявання. Як, напрыклад, пры мадэрнізацыі Бярозаўскай ГРЭС у 2008-2011 гадах, дзе зніклі невядома куды 20 міліёнаў еўра (!). Або як у "Белпаліўгазе" разбазарылі каля 54 міліярдаў рублёў (!) інавацыйнага фонду Міністэрства энэргетыкі.




Але ж Аляксандр Рыгоравіч не пажадаў адзначыць, што падобная карціна ў сферы беларускай энэргетыкі паўтараецца з году ў год, з пяцігодкі ў пяцігодку. Так гэта было ў 2001-2005 гадах. Так гэта было і ў 2006-2010 гадах, калі на выкананне мерапрыемстваў па павышэнню энэргаэфектыўнасці і павышэння энэргабяспекі краіны Рэспубліканскай праграмай мадэрнізацыі было прадугледжана на гэтыя гады фінансаванне больш за 5 міліярдаў долараў. Сродкі патрачаны, але эфектыўнасці не атрымалася.

Пра якую мадэрнізацыю можа весціся гаворка, калі беларускія навуковыя распрацоўкі пачатку 2000-х гадоў ў межах Рэспубліканскай праграмы па энэргазберажэнні сваім ўзроўнем адпавядаюць абсталяванню пачатку 20-га стагоддзя, і іх можна параўнаць з паравозамі тых часоў. Як, напрыклад, распрацаваныя Навуковым вытворчым прадпрыемствам "Белкатламаш" (г. Бешанковічы) катлы тыпа КВР-0,5-95 з каэфіцыэнтам карыснага дзеяння менш 50%. Пры гэтым, згодна пашпартных дадзеных, па заключэнні НВП, яны павінны мець ККД не менш 83%. І такім абсталяваннем за кошт сродкаў праграмы па энэргазберажэнні напічканы сотні беларускіх прадпрыемстваў.

Яшчэ, амаль два гады таму назад, 13 мая 2011 года, пры наведванні ў Бешанковічах НВП "Белкатламаш", А.Лукашэнка выказваўся аб неабходнасці стварэння ў краіне эфектыўнай сістэмы выкарыстання аб'ектаў малай энэргетыкі, арыентаванай на мясцовыя віды паліва. Чыноўнікі рознага ўзроўню завяралі яго і агучвалі амбіцыйныя задачы — у рамках мадэрнізацыі выйсці к 2013 году на долю мясцовых відаў паліва ў балансе прадпрыемстваў ЖКГ да 75%, што павінна было прывесці да значнага памяншэння сабекошту цеплаэнэргіі. 2013 год ужо на двары, а сабекошт цеплаэнэргіі і яе кошт для насельніцтва за гэтыя два гады толькі ўзрос…

Слухаючы падобныя рэляцыі кіраўніка краіны аб "чарговых дасягненнях", дзе фігуруюць лічбы са шматлікімі нулямі неэфектыўна патрачаных і скрадзеных народных грошаў, на тварах прысутных у зале слухачоў павінна была з'явіцца хаця бы заклапочанасць. А яны — "народныя абраннікі" і "слугі народу" — сядзелі і ўсміхаліся ў такт выступоўцу. Ім было весела.

А весяліцца ім ёсць ад чаго. Бо паток народных грошаў у сферу

*(Заканчэнне на стар. 3)*

# ПЕРИОД ПОЛУРАСПАДА

***Все заявления властей о миролюбивой политике Беларуси – демагогия и дешевый популизм.***

Когда в стране нет денег, правящие круги начинают ловить “косые” взгляды Запада и ради очередного кредита готовы поступиться безъядерным статусом Республики.

Закупка два десятка новых самолетов, размещение на территории Беларуси российской военной базы и возможный выход страны из Будапештского меморандума – вот на какие выкрутасы готов пойти режим, если ему не выдать денег на поддержание штанов. Простым же белорусам ядерная энергия, в любом ее виде не нужна. Часть из них живет на загрязненных радионуклидами территории, которые разного рода декретами и указами, как мановению волшебной палочки, стали “чистыми” землями.

Однако время полураспада невозможно сократить административными методами. Вот и приходится врать. Например, в Быховском районе карты радиоактивного загрязнения местности строго засекречены, а неуклонный рост онкологических заболеваний «сдерживается» простым и эффективным способом: местным




врачам дано соответствующее указание. Если кто-то из быховчан умирает от заболевания, связанного с радиацией, то его родственников уговаривают не афишировать этого и согласиться с тем, что в свидетельстве о смерти будет фигурировать не онкология, а что-то более безобидное.

По бумагам все получается очень гладко, вот только с местным кладбищем, которое со времен катастрофы на ЧАЭС непомерно разрослось, ничего поделать нельзя. Вот почему людям, похоронившим своих родных и близких, не нужна ни дешевая электроэнергия от Островецкой АЭС, ни российская военная база под Барановичами, ни ядерное оружие на территории страны.

Кто же является поклонников игр в самолетики, бомбочки и реакторчики? Ответ очевиден – белорусская “элита”, построившая свои резиденции на “чистых” территориях и купившая на ворованные деньги недвижимость за рубежом. Для нее рост смертности населения от онкологических заболеваний – только статистика, а утрата безъядерного статуса страны – прямой путь к беспардонному шантажу Запада.

Когда эти люди, со своих высоких трибун рассуждают о том, что в годы Великой Отечественной войны погиб каждый четвертый белорус, так и подмывает узнать их биографию, поинтересоваться воевали ли их деды и если воевали, то на чьей стороне?

Судя по стремлению играть ядерными мускулами – не воевали, не гибли на Одере и в ликвидации последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС не участвовали. Как не будут, в случае чего, воевать и участвовать их дети и внуки.

Белорусская диктатура прошла период своего полураспада и семимильными шагами движется к распаду полному. Когда встает вопрос о завозе снега зимой, ни мнение народа, ни угроза жизни граждан в расчет уже не принимается.

Неумение остановить надвигающуюся экономическую катастрофу толкает режим к милитаризации Беларуси. Для этого не требуется иметь семь пядей во лбу. Достаточно впустить в страну российских генералов, распахнуть ворота перед строителями Островецкой АЭС и процесс пойдет.

Вот только всех белорусов споить и околпачить не получится. И когда, не приведи Господь, случится беда, далеко не у всех из тех, кто сейчас принимает преступные законопроекты, будет возможность смыться в теплые края.

***Сергей Антонов.***

## МАДЭРНІЗАЦЫЯ ПРАВАЛЬВАЕЦЦА, А ЯНЫ ЎСМІХАЮЦЦА

*(Заканч. Пачатак на стар. 2)*

розных галін вытворчасці пад выглядам мадэрнізацыі, які льецца праз іх рукі ўжо больш за паўтара дзесятка год, пакуль што не аскуднее. І мадэрнізацыя зноўку будзе праводзіцца па іх сцэнару, а не згодна прапаноў апанентаў (апазіцыі, ворагаў народа, пятай калоны, як яны называюць). А ў такім выпадку штосьці з гэтага патоку, глядзіш, і не праскочыць між пальцамі, а прыліпне да далоняў. І зноўку за правалы ў мадэрнізацыі, у які ўжо раз, вінаватымі будуць Расія, Еўропа, ЗША і, канешне, унутраная “пятая калона” — прадстаўнікі дэмакратычнай супольнасці краіны.

***Рыгор Кастусёў, намеснік старшыні Партыі БНФ.***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# БЕЛЫНИЧАНЕ ЗАДАЛИ ВОПРОС ДЕПУТАТУ ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ

***Председатель жилищно-строительного кооператива «Двенадцать» для многодетных семей Петр Шимбалев и белыничские активисты «Говори правду» направили коллективное обращение к депутату Палаты представителей по Шкловскому избирательному округу № 90 Александру Агееву.***

В своем обращении активисты спросили у депутата Агеева:

- Александр Викторович, мы, ваши избиратели из Белыничского района, обращаемся к Вам, как к нашему депутату, который обязан отстаивать интересы своих избирателей и оказывать нам помощь в решении возникающих проблем.

Мы внимательно просмотрели трансляцию послания руководителя белорусского государства Александра Лукашенко к белорусскому народу и Национальному собранию 19 апреля и увидели, что только 7 депутатов из 110 осмелились задать ему свой вопрос.

К сожалению, Вас в числе этих депутатов не было. Можно было подумать, что в Шкловском избирательном округе № 90 все актуальные проблемы решены и заострять внимание Президента на каких-то вопросах просто незачем.

Вы просто отмолчались: получается, вопросов у Вас к Президенту нет, или Вы знаете ответы на все вопросы, которые волнуют Ваших избирателей.

По нашему глубокому убеждению, это не соответствует действительности. Приведём только один конкретный пример, который волнует и заставляет сопереживать многих неравнодушных жителей городского посёлка Белыничи и Белыничского района.

В обращении белыничане напомнили депутату о том, с какими многочисленными трудностями приходится сталкиваться многодетным семьям в его округе, которые хотят одного – чтобы действительно работал Указ Президента РБ №13 от 6 января 2012 года «О некоторых вопросах предоставления гражданам государственной поддержки при строительстве (реконструкции) или приобретении жилых помещений. Этот указ предусматривает следующие размеры




оказываемой многодетным семьям финансовой помощи в погашении льготных кредитов: при наличии троих несовершеннолетних детей – 75% от суммы задолженности по выданным кредитам; при наличии четверых и более несовершеннолетних детей – 100% от суммы задолженности по выданным кредитам.

Активисты задают вопрос депутату Палаты представителей:

- Александр Викторович, мы хотим спросить Вас: почему Вы не проинформировали об этой проблеме Президента Александра Лукашенко, который неоднократно заявлял, что многодетным семьям будет оказываться вся возможная помощь? А ведь эта проблема является актуальной не только для Белыничского района, она возникла у многих многодетных семей по всей нашей стране.

К сожалению, вопрос обеспечения жильем многодетных семей не входит в число Ваших приоритетов. На телефонное обращение членов многодетных семей вы их просто “отфутболили”, посоветовав обращаться в суд и даже не сделали попытки оказать хоть какую-то помощь. Кстати, в отличие от депутата Совета Республики Валерия Николаевича Иванова, который уделил проблемам многодетных семей своё время и постарался им помочь.

Просим Вас ответить на вопрос: будут ли Вами, как нашим депутатом, приняты меры для того, чтобы действительно работал Указ Президента РБ №13 от 6 января 2012 года «О некоторых вопросах предоставления гражданам государственной поддержки при строительстве (реконструкции) или приобретении жилых помещений”.

Если проблема не решаемая, возможно, белорусским депутатам и чиновникам надо прекратить петь дифирамбы о всемерной поддержке многодетных семей в нашей стране, а признать тот факт, что в Республике Беларусь многодетные семьи с их проблемами государству просто не нужны, – написали в обращении председатель ЖСК “Двенадцать” Петр Шимбалев и активисты “Говори правду”.

***Ирина Беганкина.***

## Анекдот дня

*Многодетным семьям дадут землю, на каждого ребенка по ведерку.*

* * *

*Всё! Не хочу больше на дачу ездить... Обещали шашлыков, огурцов и водки! А дали... лопату, рассаду и... пинка!*

# В БЕЛЫНИЧАХ МЕСТНЫЙ ЖИТЕЛЬ НЕ СООБЩИЛ ОБ УБИЙСТВЕ ПРИЯТЕЛЯ И БЫЛ ПРИГОВОРЕН К ШТРАФУ В 6 МЛН



Суд Могилевского района за совершение преступления, предусмотренного ч. 1 ст. 406 УК (недонесение о преступлении), приговорил 53-летнего жителя городского поселка Белыничи к штрафу в размере 60 базовых величин (6 млн рублей).

Как сообщила БелаПАН старший помощник прокурора Могилевской области Алла Кузнецова, 9 мая 2011 года осужденный вместе с двумя приятелями распивали спиртное у него дома. В определенный момент между гостями возникла ссора, а хозяин, решив, что выпитого недостаточно, отлучился в магазин. Вернувшись домой, он застал только одного из приятелей и увидел следы крови. Тот признался, что совершил убийство общего друга и труп спрятал во дворе.

Вместо того, чтобы сообщить о совершенном преступлении в милицию, хозяин дома предложил гостю уничтожить следы крови и забрать труп со двора. После чего они вместе продолжили праздник. Через два дня убийца забрал труп убитого и сбросил его в колодец.

Достоверно зная о совершенном убийстве, лице, которое совершило преступление и месте нахождения тела, осужденный и позже не сообщил о совершенном преступлении в правоохранительные органы.

Приговор районного суда вступил в силу 2 мая.

***Вячеслав Будкевич, БелаПАН.***

# У ИЛЬЯНОВА СПАСАЛИ ЯЙЦА

Пожар произошел на территории коммунального сельскохозяйственного предприятия “Племптицезавод “Белорусский” в деревне Комсомолец.

Сообщение о пожаре на птицефабрике поступило спасателям в понедельник 6 мая около 6 утра.

В результате пожара огнем повреждено здание инкубатора, крыша и потолочное перекрытие, подвесной потолок в складском помещении и тамбуре инкубатора. Загрузка складских помещений составляет около 26 тысяч яиц.

По данным МЧС, “удалось не допустить повреждения яиц огнем”.

Предполагаемая причина пожара – короткое замыкание электропроводки, пишет “Народная воля”.

Напомним, что возглавляет КСУП “Племптицезавод “Белорусский” бывший председатель Белыничского райисполкома Александр Ильянов. Заместителем у Александра Николаевича трудится бывший директор ОАО “Новая Друть” Игорь Бондарев.

***Богдан Иванов.***

# АВАРИИ В ШКЛОВЕ

5 мая в 17-40 в Шклове 26-летний могилевчанин, управляя автомашиной «Фольксваген Гольф» по улице Родниковой, не справился с управлением, иномарка съехала в кювет и опрокинулась. Водитель с сочетанной травмой, закрытой черепно-мозговой травмой, сотрясением головного мозга госпитализирован.

6 мая в 14-00 в Шкловском районе в деревне Смольянцы 44-летний местный житель, двигаясь на мотоцикле «Ява», не справился с управлением, упал. В результате ДТП мотоциклист и его 45-летняя пассажирка, местная жительница, с закрытыми черепно-мозговыми травмами, сотрясением головного мозга доставлены в больницу.

# ЧТО МОЖНО КУПИТЬ НА 100 ДОЛЛАРОВ СЕЙЧАС И ЧЕТЫРЕ ГОДА НАЗАД?

*(Оконч. Начало на стр. 1)*

купюра в столовой. Сегодня закажем наполовину меньше обедов, чем в 2009 году. Четыре блюда в столовой выросли в цене с доллара с четвертью до двух.

## Потери в обновках и подарках

Женщины спустя четыре года в ста долларах недосчитались блузки, пиджака, пары туфель, двух платьев и плаща. Если раньше сотни хватило бы и на демисезонные сапожки, и на летние туфли, то сегодня больше сотни стоят только сапоги к весне.

Сделать подарок за сотню сегодня тяжелее, чем четыре год назад. Золотых украшений в ста долларах, увы, убавилось – спустя четыре года мы можем купить в три раза меньше золота в ювелирных изделиях. Подорожали и цветы – стодолларовый букет поредел наполовину за четыре года.

## Потеряли полтелевизора

Четыре года назад сотни долларов с лихвой хватало на кухонный комбайн, а сегодня придется накинуть еще и десятку сверху. А вот микроволновка, наоборот, в долларах подешевела и сегодня доступна как раз за сотню. Не вмещается в прежних объемах в сотню и мелкая кухонная утварь – тарелок и кастрюль сегодня купим в два раза меньше, чем в 2009-м.

Ста баксов четыре года хватало на велосипед, а сдачи – на сумку и перчатки. Сегодня за такой же набор придется отдать уже две сотни.

На сотню был доступен в 2009 году письменный стол, а сдачи хватало на ковер (по крайней мере, Белстат называет это ковром). Сегодня один стол стоит больше сотни!

Доллар потерял и в спичках – в два раза по сравнению с 2009 годом.

***Людмила Прокопова, intex-press.***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# БАГДАНКЕВІЧ: ІДЗЕ НАДЗІМАНЬНЕ РУБЛЁВАЙ «БУРБАЛКІ»

***Беларусы масава пераводзяць свае валютныя зьберажэньні ў рублі й кладуць іх пад высокія працэнты на рублёвыя дэпазыты. Як доўга рублёвыя ўклады будуць прыбытковымі? Ці не рызыкоўна дзеля даходаў па працэнтах пераводзіць даляры й эўра ў айчынныя грашовыя адзінкі? З гэтымі пытаньнямі мы зьвярнуліся да беларускіх эканамістаў.***

Як сьведчыць статыстыка Нацбанку, за год аб'ёмы ўкладаў фізычных асобаў у беларускіх рублях вырасьлі ў 4 разы. Калі ў студзені мінулага году яны складалі ўсяго 190 мільёнаў даляраў, то ў напрыканцы сакавіка гэтага году дасягнулі 740 мільёнаў. Агулам жа рублёвыя ашчаднасьці вырасьлі за гэты час з 2,6 мільярдаў даляраў да 3,16 мільярдаў. А вось валютныя дэпазыты ня толькі ня вырасьлі, а нават скараціліся.




Прыбытковасьць па кароткатэрміновых рублёвых дэпазытах дасягае 35%. Таму ня дзіўна, што беларусы масава мяняюць даляры на рублі й нясуць іх у банкі. Наколькі рызыкоўны гэты спосаб зарабіць? Да канца году курс рубля будзе стабільным, таму рызыка мінімальная – супакойвае фінансавы аналітык Сяргей Чалы. Аднак залаты час, калі на рублёвых укладах можна было добра зарабіць, ужо амаль прайшоў, кажа экспэрт.

С. Чалы: Асноўны пэрыяд высокіх даходаў па дэпазытах завершыўся. Гэта мела сэнс рабіць увёсь мінулы год і напачатку гэтага году. Цяпер жа стаўкі па дэпазытах будуць зьніжацца, бо Лукашэнка паставіў задачу зьнізіць стаўку рэфінансаваньня. Каб было магчыма яе панізіць, як я разумею, пачнуць "уручную" стрымліваць інфляцыю".

Асноўнай пагрозай для зьберажэньняў сёньня зьяўляецца не падзеньне курсу рубля, а рост цэнаў. Звышпрыбыткі ад рублёвых укладаў, аказваецца, таксама прыводзяць да росту інфляцыі, бо за заробленыя на банкаўскіх працэнтах грошы рана ці позна трэба нешта купляць, тлумачыць эканаміст Станіслаў Багданкевіч.

С. Багданкевіч: Такія высокія стаўкі па дэпазытах дрэнныя. Ідзе надзіманьне рублёвай "бурбалкі". Калі сёньня пакладзем на рахунак мільён рублёў, то праз год атрымаем 1 млн. 400 тыс. – 1 млн. 500 тыс. рублёў. Гэта ненармальна. Ідзе беспрэцэдэнтны рост рублёвай масы.

Занадта высокія даходы па дэпазытах у сярэднетэрміновай пэрспэктыве падштурхоўваюць інфляцыю й робяць вельмі дарагімі крэдыты. Беларускі ўрад ужо пачаў паніжаць працэнтныя стаўкі, каб даць прадпрыемствам больш танных грошай. Але ў сёньняшніх умовах гэтая мера няправільная, бо яшчэ больш падштурхоўвае рост цэнаў – кажа Станіслаў Багданкевіч.

С. Багданкевіч: Стаўку рэфінансаваньня паніжаць нельга. Крэдыты павінныя быць дарагімі, каб прадпрыемствы шукалі, як скараціць затраты, каб яны не выпускалі прадукцыю "на склад", каб не адгружалі прадукцыю неплацежаздольным пакупнікам. Усё гэта вядзе да паглыбленьня крызысу.

Рэальная інфляцыя ў Беларусі амаль у два разы перавышае афіцыйную, лічыць Станіслаў Багданкевіч. Змагацца зь ёй трэба павышаючы канкурэнцыю ў эканоміцы. Урад жа зьбіраецца проста рэгуляваць цэны тавараў са спажывецкага кошыка, зь якога інфляцыя разьлічваецца.

С. Багданкевіч: Трэба ўвесьці вялікія ільготы для малога й сярэдняга бізнэсу, каб людзі пачалі аказваць паслугі, выраблялі тавары, канкуравалі адзін з адным. Змаганьне з інфляцыяй – гэта комплексная задача. З пазыцыі Цэнтральнага банку, нельга зьніжаць стаўку рэфінансаваньня, пакуль інфляцыя ня стане нізкай.

Ручное рэгуляваньне цэнаў можа прывесьці да ўсплеску інфляцыі ў будучым годзе – папярэджвае фінансавы аналітык Сяргей Чалы.

С. Чалы: Інфляцыя, хутчэй за ўсё, будзе схаванай. Лічбы, якія мы будзем бачыць у статыстычных зборніках, ня будуць адпавядаць рэальным. Калі інфляцыйны патэнцыял стрымліваць, то ён усё роўна прарвецца. Таму такі ўсплёск можа адбыцца – хутчэй за ўсё, у будучым годзе. Пакуль жа стаіць задача зьнізіць інфляцыю да 12% у год. Урад будзе выкарыстоўваць усе захады, каб гэтага дасягнуць.

Што ж рабіць звычайным людзям, якія паклалі свае апошнія 5-7 тысячаў даляраў, каб падзарабіць грошай на кватэру ці машыну? Шукаць добра аплачваемую працу й ня надта спадзявацца на банкі – раіць эканаміст Міхаіл Залескі.

*(Заканчэнне на стар. 7)*

# НЕЗВЫЧАЙНАЕ ДЗЯЦІНСТВА КОЛІ ЛУКАШЭНКІ

***Дзевяцігадовае дзіця лічыцца 43 найбольш уплывовай асобай у Беларусі, апераджаючы мітрапаліта ды лідэраў апазыцыі. Гэтай зьявай зацікавілася польская штодзёнка „Gazeta Wyborcza”.***



*Мікалай Лукашэнка*

Коля Лукашэнка ў свае 9 год ужо меў аўдыенцыю ў рымскага Папы Бэнэдыкта XVI-га, сустрэчы з Уга Чавэсам, Раўлем Кастро, прэзыдэнтамі Расеі, Украіны ды Арменіі. Улюбёныя цацкі гэтага дзіцяці – зброя ды мундзіры, яму нават дораць пісталеты ў падарунак.

Упершыню, беларусы даведаліся афіцыйна пра існаваньне Колі Лукашэнкі ў красавіку 2008-га году, калі Аляксандр Лукашэнка прыйшоў на суботнік з маленькім хлопчыкам. Прэсавая служба беларускага кіраўніка заявіла, што ня ведае ані таго, кім быў гэты хлопчык, ані як ён трапіў на будаўнічую пляцоўку. Сакрэт раскрыўся праз некалькі дзён. Падчас аднаго з тэлевізійных рэпартажаў зноў з Лукашэнкам быў той самы хлопчык, толькі гэтым разам ён называў „татам” беларускага кіраўніка. Такім ходам, беларусы даведаліся, што іх кіраўнік мае не 2, а 3 сыноў. Малодшы Коля нарадзіўся ў 2004-м годзе, а ягонай маці ёсьць Ірына Абельская, шматгадовая асабістая лекарка Лукашэнкі, піша польскае выданьне.

Чаму менавіта тады беларусам быў паказаны малы Лукашэнка. Лічыцца, што гэта стала PR ходам па аццяпленьню іміджу „апошняга дыктатара Эўропы”. Так маленькі Коля стаў часткай вялікай палітыкі.

З таго моманту ён увесь час суправаджае свайго бацьку: разам зь ім прымае парады, наведвае заводы ды фабрыкі, сустракаецца з вэтэранамі вайны, бярэ ўдзел у культурных імпрэзах. Старэйшы Лукашэнка скардзіўся нават, што сын крыўдуе на бацьку, калі той не бярэ яго з сабой. Відаць, гэта і стала прычынай таго, што Коля Лукашэнка суправаджае свайго бацьку у афіцыйных візытах на вышэйшым узроўні. Напрыклад, у 2009-м годзе падчас сустрэчы з прэзыдэнтам Арменіі, Кола Лукашэнка сядзеў у бацькі на каленях. Зьявіўся ён і на наступнай сустрэчы з украінскім прэзыдэнтам Віктарам Януковічам. Што цікава ён падганяў свайго бацьку, каб той хутчэй канчаў размову. „Тата, доўга яшчэ”, казаў малы Лукашэнка старому на вачам зьдзіўленых украінцаў, піша „Gazeta wyborcza”.

У 2010-м Коля Лукашэнка наведаў з бацькам Ватыкан, найбольш яго зацікавіла швэйцарская гвардыя. Гвардзейцаў Коля назваў клоўнамі, а ягоны бацька хваліўся, што перад імі гвардыя стаяла па струнцы.

Палітыкай стаўся і паход Колі ў дзіцячы садок ды школу. Коля не хацеў прывыкаць да дысцыпліны і замест пасьляабедзеннага перапынку выбіваў у дырэктаркі дазвол на забаву. Дарэчы, гэты экспэрымэнт Лукашэнка хутка скончыў. Коля цяпер вучыцца дома, бо мае цяжкі характар, як бацька, — патлумачыў Аляксандр Лукашэнка.

59-ці гадовы Лукашэнка заявіў пра тое, што бачыць свайго малодшага сына сваім наступнікам. Маўляў настане дзень, калі Коля Лукашэнка стане кіраўніком Беларусі.

Грамадзтва на гэта адрэагавала вельмі нэгатыўна. Лукашэнка быў вымушаны тлумачыцца ды прасіць, каб ягоныя дзеці маглі спакойна жыць і працаваць пасьля ягонага зыходу з пасады.

## БАГДАНКЕВІЧ: ІДЗЕ НАДЗІМАНЬНЕ РУБЛЁВАЙ «БУРБАЛКІ»

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*




М. Залескі: Інфляцыя будзе расьці, гэта бясспрэчна. Сёньня адбываецца рост цэнаў як у прамысловым сэктары, так і ў розьнічным гандлі. Для тых, хто хоча ашчадзіць грошы, найлепей шукаць добрую працу, а не спадзявацца на банкі. Дэпазыты не даюць у беларускіх умовах таго заробку, на які гэтыя людзі разьлічваюць.

Такім чынам, перавод валютных укладаў у рублёвыя сёньня не нясе вялікай рызыкі, бо курс беларускага рубля у бліжэйшыя месяцы вагацца ня будзе. Аднак прыбытковасьць рублёвых дэпазытаў будзе зьніжацца. У дадатак, значную частку зробленых грошай “зьесьць” інфляцыя.

***Аляксандар Папко, radyjo.net***

## В СВЕТИЛОВИЧАХ КОРОВА ОТКРЫЛА КУПАЛЬНЫЙ СЕЗОН

14 мая в 17-03 в центр оперативного управления Белыничского РОЧС взволнованный пастух сообщил о том, что при выпасе частного стада возле д. Светиловичи Белыничского района в мелиоративный канал провалилась корова.

Буренка принадлежит гражданину 1978 года рождения, жителю д. Светиловичи.

К месту вызова выехали спасатели.

Корова застряла в илистом дне мелиоративного канала (глубина 1 м, ширина 3 м) и самостоятельно выбраться из него не могла.

Работниками МЧС совместно с населением, с помощью спасательной веревки корова была извлечена из мелиоративного канала.

Животное в ветеринарной помощи не нуждается, сообщает интернет-сайт Могилёвского областного управления МЧС.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# У БЫХАВЕ ЗНЕСЛІ ПОМНІК ЛЕНІНУ, АДНАК УСТАЛЮЮЦЬ ПАМЯТНУЮ ДОШКУ КАРНІЛАВУ І ДЗЯНІКІНУ




У Быхаве знеслі адзін з двух помнікаў "правадыру сусветнага пралетарыята" Уладзіміру Леніну. Як паведаміў быхаўскі пісьменнік Сяргей Антонаў, помнік Леніну каля кансервасушыльнага камбіната знеслі 24 красавіка ў межах падрыхтоўкі да Дня беларускай пісьменасці, які будзе адзначацца ў Быхаве ў гэтым годзе.

" Помнік знеслі, бо ён меў вельмі непрывабны выгляд, - кажа Сяргей Антонаў. –Яго спрабавалі рамантаваць, аднак нічога з гэтага не атрымлівалася. Таму ў рэшце-рэшт вырашылі яго прыбраць. Лічу, што для нашага горада гэта вельмі сімвалічная падзея".

Сяргей Антонаў распавёў таксама пра тое, што днямі ён атрымаў адказ на свой зварот да старшыні Магілёўскага аблвыканкама Пятра Рудніка наконт усталявання памятнай дошкі пачынальнікам "белага" руху генералам Карнілаву і Дзенікіну. Гэтыя "белыя" генералы ў свой час знаходзіліся пад арыштам у Быхаве. Начальнік ідэалагічнага ўпраўлення Магілёўскага аблвыканкама Андрэй Кунцэвіч паведаміў пісьменніку, што Быхаўскаму райвыканкаму даручана арганізаваць збор сродкаў на выраб і ўсталяванне памятнай дошкі на будынку былой жаночай гімназіі, якая будзе ўвекавечваць "не толькі памяць абодвух генералаў, але і ўтрымліваць інфармацыю аб шэрагу другіх гістарычных падзей, звязаных з гісторыяй гэтага будынка".

"Я звярнуўся да Пятра Рудніка наконт усталявання памятнай дошкі Карнілаву і Дзенікіну ў Быхаве напрыканцы сакавіка гэтага года, калі ён праводзіў выязны прыём грамадзянаў у нас у горадзе, - распавядае Сяргей Антонаў. – Гэта нашага гісторыя і забывацца пра яе нельга. Тады Пётр Руднік сказаў мне, што пытанне вельмі далікатнае і паабяцаў падключыць да яго вывучэння ідэалагічныя і культурныя службы аблвыканкама. Ён таксама сказаў, што ў выпадку станоўчага рашэння пытання з увекавечваннем памяці Карнілава і Дзянікіна будзе адчынены адпаведны дабрачынны рахунак і выказаў надзею, што ў яго папаўненні прыме ўдзел і Партыя БНФ (Сяргей Антонаў з'яўляецца даўнім сябрам Партыі БНФ).

Я тады паабяцаў старшыні аблвыканкама, што пералічу на дабрачынны рахунак свае ўласныя сродкі, а таксама звярнуся за дапамогай да сваіх расійскіх чытачоў. Зараз вось прыйшоў станоўчы адказ з ідэалагічнага ўпраўлення Магілёўскага аблвыканкама".

Неабходна адзначыць, што ў суседнім Быхаўскім раёне мясцовыя ўлады да любых ініцыятыў Сяргея Антонава ставяцца вельмі насцярожана з-за яго сяброўства ў апазіцыйнай дзеючай уладзе Партыі БНФ. Апошнім часам, пасля з'яўлення ў інтэрнэт-сеціве яго скандальнага рамана "Стабилизатор. Минск-2041», стаўленне гэта яшчэ больш пагоршылася. Нягледзячы на тое, што агульны наклад кніг пісьменніка-фантаста перавысіў 300 000 асобнікаў, на яго радзіме ў Быхаўскім раёне не было праведзена ніводнай прэзентацыі яго твораў. Больш за тое, Сяргея Антонава нават не змясцілі ў спісе быхаўчан, што дасягнулі поспехаў у галіне літаратуры, які размешчаны на інтэрнэт-сайце раённай газеты "Маяк Прыдняпроўя".

***Іван Барысаў.***

## ИНТЕРЕСНЫЙ ФАКТ

Мало кто знает о ленинском документе от 1 мая 1919 г. №13666/2, адресованном Дзержинскому. Вот его содержание: «...необходимо как можно быстрее покончить с попами и религией. Попов надлежит арестовывать как контрреволюционеров и саботажников, расстреливать беспощадно и повсеместно. И как можно больше. Церкви подлежат закрытию. Помещения храмов опечатывать и превращать в склады».

К сожалению, по моему мнению, у нас в Белыничском районе местные власти по-прежнему верны "заветам великого Ленина". Иначе бы центральную площадь городского посёлка не украшал памятник "вождю мирового пролетариата"...

***Виктория Белова.***

## НЕ ДОЯТСЯ КОРОВЫ?

В Беларуси не доятся, как раньше, коровы. По итогам первого квартала 2013 года в большинстве районов Беларуси и во всех областях произошло заметное снижение среднего удоя молока от коровы.

Больше всех снизился удой на Могилевщине, где производительность упала на 67 кг. На ее территории абсолютный антилидер по динамике в рассматриваемом периоде наш сосед – Шкловский район. Удои в его хозяйствах упали в первые три месяца на 272 кг с коровы.

Это отбросило Шкловский район во вторую пятидесятку (на 59 место) районов по эффективности молочного хозяйства.

В январе—апреле 2013 года хозяйствами всех категорий республики произведено 2 млн. 106,1 тыс. тонн молока, что на 1,5% меньше, чем за аналогичный период прошлого года

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 15.05. 2013 г. у 16-00.